# ЭКЗАТЫЧНЫЯ ЖЫХАРЫ ЗЯМЛІ

## ВАЛАДАРЫ НЯБЁСАЎ



ПТУШКА-НАСАРОГ



КІВІ



КАЛІБРЫ



ЧЫРВОНЫ КАРДЫНАЛ



ПАЎЛІН

Спевы для птушак — справа сур'ёзная і важная. Пры гэтым цікава тое, што спяваюць толькі птушкі-хлопчыкі (самцы). Гэтак яны прыцягваюць да сябе ўвагу сяброўак (самачак).

Ту́піка лёгка пазнаць па ярка афарбаванай дзюбе, за якую яго часам называюць марскім папугаем ці клоўнам.



ТУПІК

# ЗНАЁМІМСЯ СА СВЕТАМ ЖЫВЁЛАЎ







ПЕЛІКАН

ФЛАМІНГА



ПІНГВІН

Адзіная птушка, якая можа плаваць, але не ўмее лётаць, — пінгвін. Акрамя таго, гэта адзіны прамаходзячы прадстаўнік пярнатых.

# ЗНАЁМІМСЯ СА СВЕТАМ ЖЫВЁЛАЎ



Туканы вылучаюцца яркай дзюбай, даўжыня якой практычна роўная даўжыні тулава. Гэтыя птушкі даволі кемлівыя і даверлівыя, яны лёгка прыручаюцца і хутка прызвычайваюцца да чалавека.



ГРЫФ



ТУКАН

Афрыканскі страус — самая вялікая з сучасных птушак: яе рост дасягае 2,5 метраў, а вага — 90 кілаграмаў!



СТРАУС

КАЗУАР





КОНДАР

Кондар — самая вялікая з існуючых драпежных птушак: размах яе крылаў — больш за 3 метры! Нягледзячы на ўнушальныя памеры, гэтыя драпежнікі выдатна лётаюць.

# ЗНАЁМІМСЯ СА СВЕТАМ ЖЫВЁЛАЎ

## РЭПТЫЛІІ, АБО ПАЎЗУНЫ



СКАРПІЁН

Вялікую ролю ў жыцці жывёлаў адыгрывае тэмпература асяроддзя пражывання. Да яе асабліва адчувальныя гэтак званыя халаднакроўныя жывёлы. Тэмпература іх цела залежыць ад тэмпературы паветра ці вады і змяняецца ўслед за імі.

На нашай Зямлі жыве каля 2500 відаў змей, больш за 400 з іх — атрутныя. Змеі жывуць і ў вадзе, і на сушы, а некаторыя віды вядуць надрэвавы лад жыцця.



КОБРА



УДАЎ



ЖЫЛАЦЬЕ

Жылацье, альбо гіла-монстар, належыць да сямейства са страшнай назвай «ядазубыя» і з'яўляецца ледзь не адзінай атрутнай яшчаркай на Зямлі. У чалавека атрута гэтай яшчаркі выклікае вельмі моцны ацёк, а ў некаторых выпадках можа нават прывесці да смерці.

# ЗНАЁМІМСЯ СА СВЕТАМ ЖЫВЁЛАЎ

Афарбоўка хамелеонаў можа змяняцца ў залежнасці ад асвятлення, тэмпературы, колеру навакольнага фону. Але не толькі гэтым яны дзівосныя. Вочы гэтых істотаў рухаюцца незалежна адно ад другога, а язык хамелеонаў у выцягнутым стане дасягае даўжыні самой рэптыліі!



ХАМЕЛЕОН



ІГУАНА



ЧАРАПАХА



КРАКАДЗІЛ

## СУХАПУТНЫЯ ЖЫВЁЛЫ



СКУНС

Скунс — невялікая драпежная жывёлінка — часта трымае свой пухнаты хвост стаўма. У выпадку небяспекі звер падымае яго і выпырсквае вадкасць з агідным пахам. Такой «зброяй» жывёла можа нават асляпіць праціўніка.

ДЗІКАБРАЗ





МУРАЎЕД



АПОСУМ



СУРЫКАТ



БРАНЯНОСЕЦ

Браняносцы вельмі падобныя на дагістарычных жывёл. На сённяшні дзень гэта адзінае млекакормячае, у якога панцыр пакрыты рагавымі пласцінкамі.

# ЗНАЁМІМСЯ СА СВЕТАМ ЖЫВЁЛАЎ





БЕГЕМОТ

ВЯРБЛЮД



НАСАРОГ

Палоскі на целе зебры — не проста ўпрыгожанне: яны робяць жывёлу малапрыкметнай, асабліва ў саване.

ЗЕБРА





СЛОН

Доўгі нос — адрозная рыса ўсіх сланоў — дазваляе гэтым жывёлам даставаць з высокіх дрэваў лісце, ірваць траву, піць і нават прымаць душ. Аднак маленькія слонікі не ўмеюць «карыстацца» сваім хобатам. Часам яны нават наступаюць на яго.





## КААЛА

Дзіцяняты каалы харчуюцца малаком маці, а дарослая жывёла есць выключна лісце эўкаліпта. Нават галодная, каала не харчуецца іншымі раслінамі. Акрамя таго, гэтыя жывёлы практычна не п'юць.

# ЗНАЁМІМСЯ СА СВЕТАМ ЖЫВЁЛАЎ



БУЙВАЛ





КЕНГУРУ



ПАНДА





ЖЫРАФА

ШЫМПАНЗЭ

Вышыня жырафы можа дасягаць 6 метраў! Такі высокі рост прымушае жывёлу спаць у крыху дзіўнай позе: жырафа падціскае пад сябе пярэднія ногі і адну з задніх, а галаву кладзе на другую заднюю нагу, выцягнутую ўбок. Доўгая шыя апынаецца пры гэтым выгнутая назад у выглядзе аркі.

Пума — другі па велічыні прадстаўнік сямейства каціных у Амерыцы, буйнейшы за яе толькі ягуар. Гэта жывёла — вельмі спрытны паляўнічы. Дзякуючы мускулістым лапам яна здольная рабіць доўгія скачкі і даволі хутка бегаць. Апроч таго, пума выдатна лазіць па дрэвах і пры неабходнасці плавае.

Грывістага ваўка называюць яшчэ гуара. Яго вылучае трохі непрапарцыйны выгляд: невялікае тулава з доўгімі нагамі. Жыве грывісты воўк у стэпах і на ўскраінах балотаў, дзе яго доўгія ногі дапамагаюць выпільноўваць здабычу праз верх высокай травы.



ПУМА



ФЕНЕК



ГРЫВІСТЫ ВОЎК



ТЫГР

Ягуары вельмі падобныя да леапардаў, аднак значна буйнейшыя і мацнейшыя за іх. Гэтыя прыроджаныя паляўнічыя могуць быць актыўныя і ўдзень, і ўначы, але аддаюць перавагу прыцемкам.



ЯГУАР



ГІЕНА

Ільвы — вельмі калектывісцкія жывёлы. Усе свае дзеянні — паляванне, ужыванне ежы, адпачынак — яны зладжваюць сямейнымі групамі, якія называюць прайдамі.



ЛЕЎ



ЛЕАПАРД

## ВАДЗЯНЫЯ ЖЫХАРЫ



МІДЫЯ



ВУСТРЫЦА



МАРСКІ ВОЖЫК



МАРСКІ КАНЁК



КРАБ

Марскія канькі здольныя змяняць афарбоўку свайго цела, што дазваляе ім па-майстэрску маскіравацца ў зарасніках марской травы.

У марскіх зорак можа быць ад пяці да некалькіх дзясяткаў праменьчыкаў. Адарваныя промні ў іх хутка вырастаюць ізноў. А калі марскую зорку разрэзаць напалам, то кожная з яе паловаў вырасце ў паўнавартасную асобіну.



МАРСКАЯ ЗОРКА



КАЛЬМАР

На 98% мядуза складаецца з вады. Таму нават самыя буйныя экзэмпляры, памерам больш за метр, не здольныя супрацьстаяць марскім цячэнням.



АСЬМІНОГ



МЯДУЗА

Асьміногаў яшчэ называюць галаваногімі малюскамі, таму што іх шчупальцы растуць вакол галавы. Шчупальцы буйных асьміногаў могуць дасягаць 9 метраў у даўжыню, але ў большасці відаў яны не перавышаюць даўжыні чалавечай далоні.




Скаты жывуць на марскім дне. Некаторыя з іх існуюць нават на глыбіні больш за 2 тысячы метраў! Яны мала рухаюцца і часта закопваюцца ў верхнія слаі пяску. Некаторыя віды скатаў бываюць небяспечныя нават для людзей.

СКАТ





Дэльфіны — вельмі разумныя жывёлы. Іх мозг пераўзыходзіць чалавечы як паводле памераў, так і па колькасці звілінаў! Таму не дзіўна, што ў гэтых млекакормячых ёсць нават свая ўласная мова.

АКУЛА



Існуе больш за 350 відаў акул, якія вельмі адрозныя паміж сабой і паводзінамі, і памерамі, і формай, і афарбоўкай. Такім чынам, самая маленькая з іх памерам з аловак, а адна з самых вялікіх — кітовая — можа дасягаць 20 метраў у даўжыню!



РЫБА-ПАРУСНІК

Да атрада акунёвых рыб адносіцца пaруснік — самая хуткая рыба ў свеце. Яна здольная развіваць хуткасць да 130 кіламетраў на гадзіну, то бок цалкам можа спаборнічаць з аўтамабілем «Ферары». Даўжыня парусніка складае прыблізна 3 метры, а вага цела — каля 100 кілаграмаў.



РЫБА-КЛОЎН

# ЗНАЁМІМСЯ СА СВЕТАМ ЖЫВЁЛАЎ

Па памеры маржа можна параўнаць з легкавым аўтамабілем. Пры гэтым ён мае даволі тоўстую скуру, якая практычна не прапускае холад.





ЦЮЛЕНЬ

МОРЖ



КАСАТКА

У няволі касатак часта ўтрымліваюць у акіянарыюмах, дзе яны лёгка навучаюцца розным штукам. Тут гэтыя млекакормячыя зазвычай міралюбівыя, аднак у моры ўяўляюць вялікую небяспеку для іншых яго жыхароў.

КІТ



Блакітны кіт, альбо блювал, — самая вялікая жывёла з тых, што калі-небудзь жылі на Зямлі. Яго даўжыня можа перавышаць 30 метраў, а вага — 200 тон! Акрамя таго, блакітны кіт — рэкардсмен па гучнасці ўтвараемых гукаў: яго «песні» чуваць на надзвычай далёкія адлегласці.